

№ 10 (171)
Сакавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:





**З вясновым днём, родныя нашы жанкі, віншуе «Краязнаўчая газета»!**

*Малюнак Васіля ШАРАНГОВІЧА да паэмы «Новая зямля»*

## Напярэдадні Дня памяці

Напярэдадні 15 лютага ў сталічнай агульнаадукацыйнай СШ № 119 з музычна-харавым ухілам прайшла сустрэча саветаў музееў, прысвечаная Дню памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў. На пачатку мерапрыемства, якое праходзіла ў актавай зале, выступіла загадчык аддзела краязнаўства МДЦДіМ Валянціна Іванаўна Яргольская. Пасля дырэктар школы Жанна Міхайлаўна Вальчэўская расказала пра «Фарміраванне ў навучэнцаў пачуцця любові да Радзімы, актыўнай грамадзянскай пазіцыі» (напрыклад, пра ідэалагічнае выхаванне школьнікаў, праграму экспедыцыі «Наш край», пра жыццё школы). Паведамленне суправаджалася паказам шматлікіх фотаздымкаў, схемаў на вялікім экране, што надавала выступленню своеасаблівую цікавасць.

Прыемна ўразіла і канцэртная частка мерапрыемства. У выкананні настаўніцы музыкі Жанны Яўгенаўны Пупкевіч гучала песня «Завешся ты ласкава Белай Руссю», верш ад Валерыя Дзмітрыевіча Касьянчыка. Ігар Міхайлавіч Сіпакоў выканаў «Маналог Чорнага цюльпана» і «Афіцэры». Пачулі ўдзельнікі мерапрыемства і песні ад Пятра Васільевіча Аўраменкі, а таксама ВІА «Мужской разговор».

Не менш цікавым былі і выступленні-аповеды ветэранаў вайны ў Афганістане (Сяргея Анатольевіча Красоўскага – старшыні ГА «Асацыяцыя інвалідаў вайны ў Афганістане», Юрыя Маратавіча Бушуева і іншых).

Арганізатарам сустрэчы выступіў і Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама на чале з Уладзімірам Канстанцінавіцам Шчэрбам, які надае вялікую ўвагу патрыятычнай, ідэалагічнай, сацыяльнай і выхаваўчай рабоце.

**Наш кар.**

### На тым тыдні...

● У галерэі «ARS LONGA» да 12 сакавіка 2007 года праходзіла мастацкая выстава «Адзін дзень з жыцця жанчыны: мары і рэчаіснасць». Сваім уяўленнем аб жаночым шчасці падзяліцца беларускія мастакі У. Цеслер, С. Рымашэўскі, А. Асташоў, Д. Раманюк, В. Даманава, І. Сямілетаў, Н. Сакалова і іншыя.



**Упэўненасць – самая магутная творчая сіла**

*М. Горкі*

## Вясну гукаем, ураджаю добрага чакаем

Тое, што веснавы дзень год корміць, ведаюць усе. Кажуць яшчэ: «Працуй добра вясной, набожа, увосень і Бог дапаможа». Вясна – гарачая пара для земляробаў. Але ў беларускага селяніна гэта звычайная праца з вясёлымі песнямі, жартамі, прыказкамі.

*– Вясна-красна,*
*вясна-красна,*
*Ды што ты нам прынясла?*
*– Шаўкову траву на вясну,*
*Буйное жыта на лета.*

У прадчуванні вясновага цяпла, абуджэння зямлі і росквіту прыроды пачыналіся па Беларусі абрадавыя дзеянні Гукання вясны. Усхваляючы змены ў прыродзе, маладыя хлопцы і дзяўчаты прасілі:

*Багаславіце, старыя людзі,*
*Ах, вясну-красну загукаць,*
*загукаць.*
*Люту ж зіму замыкаць,*
*замыкаць.*
*Да вясну-красну на вулачку,*
*на вулачку,*
*Люту зіму ў каморачку,*
*у каморачку.*

Моладзь збіралася на беразе ракі або возера. Зрабіўшы невялікі плыт, мацавалі на ім старое прасмаленае кола, падпальвалі яго і пускалі на ваду. Вогненае кола сімвалізавала Сонца, якое ўшаноўвалася нашымі продкамі-язычнікамі як боства.

Пакуль плыт з запаленым колам плыў, удзельнікі дзейства ішлі за ім па беразе і спявалі:

*Сонейка на прыпечак*
*скацілася,*
*І зямліца ўсміхнулася:*
*– Вазьмі, сонейка,*
*у Бога дазволу*
*І апусціся да долу.*
*Мы табе спяваем,*
*мы цябе ўсхваляем,*
*Прыходзь, мы цябе чакаем!*

У некаторых рэгіёнах вясну гукалі ў нядзелю перад Вялікім постам. Выходзілі на ўзгорак за вёскаю з выпечанымі з цеста птушкамі і хлебам – вадзілі сонечны колавы карагод, ладзілі гульні, танцы.

Беларускія абрады Гукання вясны вельмі багатыя на песні, прыпеўкі, заклічкі. Напрыклад, такая ёсць:

*Ой, вясна-маці,*
*Хадзі к нам гуляці!*
*Хадзі к нам гуляці,*
*Карагоды спраўляці!*

Кожнае абрадавае дзеянне было прызначанае цёплай вясне, ушанаванню прыроды, багатаму ўраджаю. Гэтае бачна і з прымавак: «Страчанага ўвесну дня не купіш», «Вясну хваляць за сонца і дажджы, а лета – за снапы і вазы», «Багата вясна кветкамі, а лета палеткамі».

***Мікола КОТАЎ,***
***фалькларыст***

## Наш каляндар

● **Юльян Урсын Нямцэвіч,** польскі пісьменнік і публіцыст, нарадзіўся 16 лютага 1757 (1758) года. Вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме, Варшаўскім кадэцкім корпусе (1770–1777). Падчас паўстання 1794 года з'яўляўся ад'ютантам Т. Касцюшкі. Быў заключаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. З 1796 года ў ЗША, з 1807 – на радзіме. Удзельнік паўстання 1830–1831 гадоў, пасля яго падаўлення (з 1833) у эміграцыі. Аўтар раманаў «Два паны Сяцехі» (1815), «Ян з Тэнчына» (1825), цыкла «Гістарычныя песні» (1825), камедый. У кнігах «Дзённікі маіх часоў» (1848), «Гістарычныя падарожжы па польскіх землях» (1858), дзе маляўніча апісаў Гродна, Брэст, Навагрудак, Слонім і інш., жыццё беларускіх сялян. Беларуская тэматыка і ў «Літоўскіх пісьмах», напісаных у вайну 1812 года.

● Вядомы скульптар **Казімір Ельскі** нарадзіўся ў 1782 годзе ў вёсцы Дудзічы Пухавіцкага раёна. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. Узначальваў кафедру скульптуры на факультэце жывапісу, скульптуры і архітэктуры гэтага ж універсітэта (1810–1826). Працаваў у галіне манументальнай і станковай скульптуры. Сярод прац: бюст князя А. Чартарыйскага, партрэт маршалка Віленскай губерні М. Ромера, барэльефы «Алегорыя скульптуры», «Смерць Барбары Радзівіл», «Трыумф Аляксандра II у гонар Парыжскага кангрэса 1856 г.». Стварыў статуі ў бакавых парталах Віленскага кафедральнага сабора, шэраг барэльефаў і бюстаў для Віленскага універсітэта. У творчасці кіраваўся прынцыпамі класіцызму. Аўтар мастацтвазнаўчых прац, у тым ліку трактата «Аб сувязях архітэктуры, скульптуры і жывапісу» (1828).

● 135 гадоў таму, 29 лютага 1872 года, у сядзібе Крынкі Бялыніцкага раёна нарадзіўся **Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля**, жывапісец-пейзажыст, член Таварыства перасоўных выставак (з 1904), Таварыства імя А. Куінджы (з 1909), народны мастак Беларусі (1944), народны мастак РСФСР (1947), ганаровы акадэмік АН Беларусі (1947), правадзейны член АМ СССР (1947). Скончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства (1896). У аснове эмацыянальнай выразнасці яго пейзажаў – лірычнасць, тонкі разлік кампазіцыйнай пабудовы. Найбольш вядомыя лірычныя пейзажы («Аголеныя бярозкі», «Веснавыя воды», «Пачатак восені» і інш.). Аўтар успамінаў «З запісак мастака» (1958) і артыкулаў. У г.п. Бялынічы – мастацкі музей імя В.К. Бялыніцкага-Бірулі, у Магілёве – філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь «Музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі».

● **Міхаіл Андрэевіч Савіцкі,** народны мастак Беларусі (1972), народны мастак СССР (1978), правадзейны член Расійскай АМ (1983) нарадзіўся 18 лютага 1922 года ў вёсцы Звянячы Талачынскага раёна. Скончыў мастацкі інстытут імя Сурыкава ў Маскве (1957). Працуе ў галіне станковага і манументальнага жывапісу. Яскрава выкарыстоўвае мову мастацкай метафары, стварае шматгранныя вобразы, якія набываюць значэнне сімвала. Яго раннія працы («Партызаны», «Віцебскія вароты», «Партызанская мадона», «Бежанцы», «Поле» і інш.) характарызуюцца псіхалагізмам вобразаў, складанай рытмікай кампазіцыйнай будовы. Праблемы эстэтычнага і этычнага ідэалу часу, сучаснасці – у карцінах «Хлябы», «Ураджай», «У полі» і інш. У працах на рэвалюцыйную тэматыку імкнуўся асэнсаваць падзеі ў кантэксце трагізму («Ноч на 25-га кастрычніка 1917 года», «30 жніўня 1918 года»). На аснове гістарычных фактаў і асабіста перажытага ў фашысцкіх канцэнтрацыйных лагерах выкананы цыкл з 13 карцін «Лічбы на сэрцы». Чарнобыльскай катастрофе прысвечаны цыкл «Чорная быль». Хрысціянская тэматыка і гістарычныя вобразы ў працах «Хаджэнне па водах», «Зняцце з крыжа», «Пахаванне Ефрасінні Полацкай», партрэты Я. Коласа, Я. Купалы, Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага і інш. Дзяржаўная прэмія Беларусі (1970, 1980) і Дзяржаўная прэмія СССР (1973), званне Героя Рэспублікі Беларусь (2007).

● 22 лютага споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму скульптару **Івану Якімавічу Міско**. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі нарадзіўся ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1966). Працуе ў станковай і манументальнай скульптуры. Выдатны майстар станковага партрэту дзеячаў беларускай культуры – Я. Цікоцкага, Р. Шырмы, Я. Маўра, Г. Бураўкіна, В. Таўлая, С. Станюты; алімпійскіх чэмпіёнаў – А. Мядзведзя, А. Бяловай. У манументальным мастацтве: помнікі Герою Савецкага Саюза І.К. Кабушкіну ў Баранавічах, І. Буйніцкаму ў вёсцы Празарокі, бюсты П.І. Клімука ў Брэсце, У.В. Каваленка ў г.п. Крупкі і інш. Манумент у гонар маці-патрыёткі ў Жодзіне (Дзяржаўная прэмія СССР, 1977). Галоўнае месца ў творчасці І.Я. Міско заняла тэма космасу, праца над скульптурнымі партрэтамі касманаўтаў з многіх краін свету.

# Асаблівасці нацыянальнага календара

***З самага нараджэння (1993) Фестываль беларускай песні і паэзіі «прапісаны» ў адным з цудоўнейшых куточкаў Беларусі – Маладзечне. Вось і сёлета ён адбудзецца ў чэрвені і стане дзевятым па ліку; прысвечаны будзе 125-м угодкам з дня нараджэння класікаў літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Інакш і не можа быць, бо менавіта Маладзечаншчына – Купалава радзіма.***

У фестываля – незвычайныя, цікавыя вытокі. Першым, хто яго стварыў і задумаў, быў вядомы ў Беларусі вучоны і палітык, тагачасны мэр Маладзечна Г.Д. Карпенка. З дапамогай сваіх верных памочнікаў Г. Шарэпы, В. Ляшковіча, Р. Сарокі, У. Станкевіча, Н. Сідарэнкі і многіх іншых задуманае ён ажыццяўляў. Напэўна, пра падобнае напісаў Ніл Гілевіч:

*...Магчыма,*
*Вам якраз і здзейсніць,*
*Дзядоў вялікі запавет:*
*Узняцца так*
*на крылах песні,*
*Каб чуў і бачыў цэлы свет!*

Першы фестываль беларускай песні і паэзіі адбыўся на гарадскім стадыёне (і, як бы цяжка ні было, а ішоў выпрабавальны, нестабільны і пераломны 1993 год), усё было зроблена па вышэйшым класе: афішы, памятныя буклеты, значкі... Узгадвае былы дырэктар гарстадыёна В.М. Галіцына: «Колькі было хваляванняў, колькі прыгатаванняў, бо ўсё ж было першы раз! Добра памятаю вельмі вялікую сціпласць кіраўніка аркестра і галоўнага арганізатара фестывалю прафесара Міхаіла Фінберга. Ён адзін з усіх зорак беларускай эстрады тут і жыў – на стадыёне. У фестывалі ўдзельнічалі не толькі нашы спевакі, але і артысты з Грузіі: прыгожая, сціплая, таленавітая і вельмі чалавечная Тамара Гверцытэлі, сапраўдны грузін і таленавіты артыст Сасо Паўліашвілі. З нашых былі Ліка Ялінская, Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Іна Афанасьева, Аляксандр Саладуха... Вельмі шкада, што «Песняры» з Уладзімірам Мулявіным былі тады на гастролях і не змаглі быць нашымі гасцямі!» Цікавую інфармацыю прадаставіла дэпутат гарсавета, рэдактар радыё «Маладзечна» Галіна Лазоўская. Яна адзначыла, што «адразу пасля распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў створаны і плённа працуе аргкамітэт па падрыхтоўцы фестывалю. У параўнанні з першым толькі адно засталося нязменным: хваляванні, шмат клопатаў, падрыхтоўчая праца... Але ўсё гэта вельмі прыемна, бо такое ў горада бывае адзін раз у два гады. Чырванець нам за нешта нязробленае не давядзецца!»

А мастацкі кіраўнік фестывалю і галоўны дырыжор аркестра прафесар Міхаіл Фінберг адзначыў на першым пасяджэнні аргкамітэта: «Геаграфія ўдзельнікаў шырока прадстаўляе таленавітую моладзь малых і вялікіх гарадоў Беларусі, фальклорна-этнаграфічныя калектывы і знакамітых майстроў беларускай эстрады. Стрыжнем фестывалю, яго арганізатарам і творчым здзяйсняльнікам будзе Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі».

Пад час кожнага фестывалю ў горадзе ладзяцца шматлікія кірмашы, выставы розных гурткоў народнай творчасці, будзе шмат сустрэч з цікавымі людзьмі. І самае галоўнае: усё – толькі «ўжывую», ніякай фанаграмы! Як трапна адзначыў мясцовы паэт Вячаслаў Шнуркевіч:

*Прыязджайце, людзі,*
*Песні нашы чуці,*
*Горад наш цудоўны*
*паглядзець.*
*Скажа кожны стрэчны:*
*«Тут, у Маладзечне,*
*Можна сапраўды*
*памаладзець».*

***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ***



Чыгуначны вакзал у Маладзечне

Фоа з radzima.org



# Чакайце ж, канадскія хакеісты...

***Хоць сёлетняя зіма напачатку была цёплаю, ды апошнім часам яна ўсё ж пастаяла ў самай сіле. Хапіла снегу, вада хутка ператваралася ў лёд – самая пара катацца на санках, станавіцца на лыжы і канькі, дыхаць свежым, чыстым паветрам. І адчуваць ад гэтага радасць.***

У Ільянскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школе з краязнаўчым ухілам імя А.А. Грымаця ёсць магчымасць катацца на коньках колькі хочацца. За гэта вялікая ўдзячнасць усім, хто паклапаціўся і аб лёдзе, і аб коньках, аб асвятленні лядовай пляцоўкі і нават аб музычным афармленні. Катацца пад музыку, вядома ж, куды весялей. Трэнер школьнай хакейнай каманды, настаўнік Уладзімір Ігнатавіч Габрыновіч – асноўны ініцыятар і арганізатар катання на лёдзе. Яму дапамагаюць дзяжурныя настаўнікі, а асабліва настаўнікі фізкультуры Т.П. Дуровіч, А.А. Шэры. Арганізаваны платны пракат канькоў для ўсіх; але наведнікі спартыўных секцый і члены школьных каманд канькі атрымалі ў карыстанне бясплатна.

Пасля заняткаў у школе лядовая пляцоўка запоўнена дзецьмі, яны ўсё ідуць і ідуць сюды. Месца хапае ўсім, лёд роўны і слізкі, канькі ахвочым пакатацца выдаюцца спраўна. Бывае, праўда, што іх не хапае для ўсіх, але гэта тады толькі, калі колькасць дзяцей перасягае колькасць канькоў (а іх – больш за 100 пар).

Вучань 8 класа Віця Чарапок любіць катацца на каньках. У суботу, калі не бывае заняткаў, спецыяльна прыязджае ў Ілью з Будзішча на каток. Тут весела, катаюцца і дзеці, і дарослыя. Сюды прыходзяць ужо і бацькі са сваімі сем'ямі.

І ўсё гэта дзякуючы клапатлівым людзям. Напрыклад, Віталь Вайда, начальнік аддзела спорту Вілейскага райвыканкама, паклапаціўся перадаць школе больш за 60 пар новых канькоў; начальнік Вілейскіх электрасетак Анатоль Рогач разам з ільянскімі спецыялістамі В.А Марковічам і М.М. Суднікавічам забяспечылі каток асвятленнем.

Каток у Ілы працуе ўжо не адзін год. А 23 лютага штогод праводзіцца «Лёдавае пабоішча»– свята на катку са спаборніцтвамі, гульнямі, спартландыяй, катаннямі. Гэта відовішчнае мерапрыемства для ўсёй школы і гасцей прайшло і сёлета. Шкада толькі, што школьныя хакейныя каманды ўсё яшчэ не маюць клюшак. Спадзяванне на фундатараў застаецца. Можа, яны пачуюць нас? Ільянскія хакеісты былі і застаюцца яшчэ найлепшымі ў раёне. Яны ж паспяхова выступалі на абласных спаборніцтвах і атрымлівалі прызавыя месцы.

Прыязджайце і прыходзьце, калі ласка, на школьны каток па здароўе.

***Уладзімір КАЖАМЯКА,***
***кіраўнік гурткоў Ільянскай СШ***
***з краязнаўчым ухілам імя А.А. Грымаця,***
***Вілейскі раён***

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**УСТАВА** – заканадаўчыя дакументы ў ВКЛ – канстытуцыя, статут, сеймавая ўхвала і інш. Так называлі таксама пісьмовыя распараджэнні ваявод аб устанаўленні цэн на пэўныя харчовыя тавары, віно, прыправы і рамесныя вырабы, што ўвозіліся з-за мяжы. Гэтыя адмысловыя прэйскуранты (ад ням. даведнік цэн на тавары) выдаваліся ў кожным ваяводстве два разы ў год, абвяшчаліся і вывешваліся на рынках, у іншых людных месцах. Гандляры альбо купцы, калі завышалі кошт тавараў, караліся грашовым штрафам.

**«УСТАВА НА ВАЛОКІ»** 1557 года – закон аб правядзенні *валочнай памеры* (тут і далей выдзеленыя паняцці тлумачыліся ў «КГ» раней. – **Рэд.**), выдадзены 1 красавіка вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам і *панамі-радай*. Паводле Уставы, у дзяржаўных маёнтках зямля дзялілася на стандартныя ўчасткі – *валокі*, з яе налічваліся павіннасці сялян, розніца ў аплаце залежала толькі ад якасці зямлі; выхад сялян з дадзеных ім участкаў абмяжоўваўся шэрагам умоў, у выніку сяляне, хоць і не поўнасцю, прымацоўваліся да зямлі.

Устава мела 49 артыкулаў. 1–6 артыкулы вызначалі абавязкі тых, хто ў час вайны павінен ісці ў войска; 7–8 – абавязкі сельскай адміністрацыі; 9–14 – статут дзяржаўных гарадоў, якія не мелі самакіравання па магдэбургскім праве; 15–19 – павіннасці сялян; 20–25 – арганізацыю фальваркаў (тлумачэнне будзе ў наступным нумары. – **Рэд.**); 26–28 – парадак прыёму падаткаў ад насельніцтва. У асноўным 29 артыкуле выкладаліся правілы вымярэння зямлі на валокі і пасялення на іх сялян. Астатнія артыкулы прысвячаліся лясной і воднай гаспадарцы, дадатковым павіннасцям сялян і інш. Ва Уставе былі звесткі пра розныя бакі сацыяльна-эканамічнага жыцця. Гэта адзін з першых заканадаўчых актаў аб ахове прыроды. Напрыклад, артыкул 33 забараняў лавіць рыбу ў азёрах у красавіку-чэрвені. Практычнае ажыццяўленне Уставы не задаволіў урад. Ужо 20 кастрычніка 1557 г. былі ўнесеныя дадаткі і папраўкі, у выніку чаго аб'ём сялянскіх павіннасцей значна павялічыўся, сяляне фактычна страцілі права пераходу да іншых землеўласнікаў. Выпрацаваная для дзяржаўных маёнткаў «Устава на валокі» набыла ўсеагульнае значэнне, паводле яе праводзілася валочная памера ў большасці гаспадарак (вялікакняжацкіх), царкоўных і прыватных уладанняў Беларусі, Літвы і часткова Украіны.

***Экскурсія ў музей установы***

***Як бачыце, з гэтага нумара, шаноўныя чытачы, мы пачынаем новую рубрыку, пра якую пісалі напярэдадні новага года. «Героямі» публікацыяў стануць музеі, якія прысвечаныя пэўнай службе або ўстанове, галіне прамысловасці і народнай гаспадаркі. Там, паверце, таксама ёсць адметныя экспазіцыі, працуюць апантаныя і ўлюбёныя ў музейную справу спецыялісты, якія ў «нецікавай» на першы погляд галіне знаходзяць адметныя факты і рэчы, паказваюць іх з нязвыклага боку. Не абыходзіцца, вядома, і без пэўнай банальнасці, але ж падобныя музеі – часцей новыя ўтварэнні. Таму запрашаем іх супрацоўнікаў і чытачоў да сумеснай працы. Будзем разам абмяркоўваць праблемы, шукаць цікавы паварот тэмы, абменьвацца досведам. І, можа стацца, якраз дзякуючы вашаму музею банкаўскі работнік, пажарны, механізатар, міліцыянер, сталявар, прадавец, аптэкар... пералік можна доўжыць... па-іншаму паглядзіць на сваю прафесію, на свой унёсак у агульную справу. Сёння ж мы запрашаем на першую экскурсію.***



# Ад банкаўскай канторы купцоў Лур'е да НБРБ

***1 верасня 2006 года ў Пінску быў адкрыты Палескі дзяржаўны універсітэт. Ён створаны на базе рэарганізаванага Пінскага дзяржаўнага вышэйшага банкаўскага каледжа Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь і зліквідаванага філіяла Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.***

У навучальнай установе ёсць музей, адкрыты 30 кастрычніка 2004 года да 60-годдзя Пінскага ўлікова-крэдытнага тэхнікума, перайменаванага ў 1997 годзе ў банкаўскі каледж, а ў 2001 – у Пінскі вышэйшы банкаўскі каледж Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Добра вядома, што моцным можа лічыцца тое грамадства, дзе шануюць традыцыі і дзе ёсць гістарычная памяць. Стварэнне музея ва універсітэце – вынік працы многіх людзей, неабыякавых да гісторыі сваёй навучальнай установы, якія збіралі матэрыялы па драбочках. Для гэтага яны шукалі звесткі і ў музеях ды архівах. Праведзена вялізная даследчыцкая праца. Дапамогу ў афармленні аказалі прафесіяналы музейнай справы, без якіх экспазіцыя наўрад ці была б такой яркай і выразнай.

У аснову пакладзены тэматычна-храналагічны парадак – на 12 вітрынах прадстаўлена болей за 300 адзінак экспанатаў, што адлюстроўваюць 60-гадовы шлях тэхнікума-каледжа-універсітэта.

Гісторыя ўстановы прадстаўлена дакументамі пра заснаванне, першымі загадамі, фотаздымкамі і асабістымі справамі. Тут жа выстаўленыя бухгалтарскія лічыльнікі, арыфмометры, першыя вылічальныя машыны, значкі, вымпелы, граматы, атрыманыя студэнтамі ў розныя гады.

Але давайце напачатку зазірнем у 1873 год. Тады ў Мінску быў адкрыты першы Камерцыйны банк, заснавальнікам якога была сям'я пінскіх купцоў Лур'е, якія ў 1861 годзе пасля адмены прыгоннага права сабралі на гандлі хлебам вялікую суму грошай і ўклалі іх у дрэваапрацоўчую прамысловасць і банкаўскую справу. У 1863 годзе браты Майсей і Давід Лур'е адкрылі ў Пінску гандлёвы дом, а ў 1866 годзе – банкаўскую кантору, што стала пачаткам банкаўскай справы ў горадзе.

Банкаўскія дакументы, вэксалі, аблігацыі, архіўныя матэрыялы даюць уяўленне пра сетку банкаўскіх прадстаўніцтваў і кантораў з тых далёкіх часоў да нашых дзён.

Аснову любога музея складаюць калекцыі. У нашым музеі, за год пасля адкрыцця, была сабраная калекцыя манетаў і папяровых купюраў. Гэта было падставаю для адкрыцця выставачнай залы на тэму вырабу, захавання і абарачэння грошай на тэрыторыі Беларусі. Розныя віды грошай знаёмяць з іх эвалюцыяй, што доўжылася стагоддзямі, даюць лепш зразумець значэнне іх узнікнення, прызначэнне, сённяшнюю сітуацыю, а таксама – тэндэнцыі і перспектывы развіцця грашовай сістэмы.

Самая старая манета ў музеі – фрагмент куфічнага дырхама (дырхам – арабская манета, якую чаканілі ў пачатку X стагоддзя ў многіх гарадах Сярэдняй Азіі, Ірана, Закаўказзя, Месапатаміі, захопленай арабамі Іспаніі). Куфічны дырхам атрымаў назву паводле наймення арнаментальнага пісьма, што ўзнікла ў іранскім горадзе Аль-Куфа, якім выконваліся легенды (надпісы) на манетах.

У Беларусь гэтая грашовая адзінка патрапіла дзякуючы вядомаму «шляху з варагаў у грэкі» (IX–X стагоддзі). Тады ў Беларусі мела хаджэнне толькі стандартная манета, якая ўтрымлівала 2,5–3,6 грамаў срэбра. А каб быў набор розных грашовых наміналаў, яе драбілі на часткі.

Не менш цікавыя манеты Вялікага княства Літоўскага: 1 1/2 грошавік Жыгімонта III і 6-грошавік Яна Казіміра (1665 год). Ёсць таксама манеты Расіі, Польшчы, і Германіі.

Усяго ў музеі захоўваецца 1 297 манетаў. Праўда, з іх 493 – знакі аплаты СССР. Але кожны калекцыянер ведае, што галоўнае сабраць экспанаты, а выстаўляць іх можна і праз сто гадоў. Тым больш, назіраючы за экскурсантамі, можна пераканацца: усё болей маладых людзей бачаць у манеце не толькі кругляш з металу.

Прадстаўленыя ў нас і папяровыя грошы, напрыклад, 1 рубель Расійскай імперыі 1898, 3 рублі 1905, 10 рублёў 1909, 100 рублёў 1910 і 500 рублёў 1912 гадоў. Ёсць у нас і перадваенныя грошы Дзяржаўнага банка СССР узору 1937 года – чырвонцы наміналам 1, 3, 5 10 і Дзяржаўныя казначэйскія білеты ўзору 1938 года наміналам 1, 3, 5 рублёў. На вітрынах наведвальнікі могуць бачыць і грашовыя знакі Цэнтральнага эмісійнага банка Украіны, што мелі хаджэнне ў паўднёвых раёнах Беларусі, якія ўваходзілі ў рэйхскамісарыят «Украіна». Іх друкавалі ў 1942 годзе ў горадзе Роўна.

Усе вітрыны афармленыя прывабна, што і прыцягвае не толькі нумізматаў і спецыялістаў банкаўскай справы, але і простых наведвальнікаў.

Але асноваю гістарычнага развіцця быў і застаецца чалавек. Таму ў музеі ладзяцца выстаўкі, прысвечаныя ветэранам каледжа і колішнім выпускнікам, якія зрабілі важкі ўнёсак у развіццё банкаўскай справы. Такія выстаўкі – жывы дадатак да строгіх і дакладных банкаўскіх дакументаў. Першая такая імпрэза была прысвечана выпускніку 1957 года А.А. Краскоўскаму, колішняму выкладчыку каледжа, які і сёння працуе ва універсітэце.

Цікавая і нядаўняя выстаўка пра жыццёвы шлях выпускніцы 1971 года Н.А. Ермаковай, якая цяпер кіруе «Беларусбанкам». Наведаўшы нашу ўстанову, Надзея Андрэеўна ў Кнізе ганаровых гасцей пакінула такі запіс: «Ваш музей – сапраўдная перліна гісторыі банкаўскай справы».

У музеі практыкуецца збор матэрыялаў пра выпускнікоў, якія жывуць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Напрыклад, зусім нядаўна старшыня Праўлення Масбізнесбанка В.І. Буката перадаў кнігі, напісаныя ім, і фотаздымкі студэнцкіх гадоў.

Падчас навучальнага года ў музеі праводзяцца экскурсіі для студэнтаў. Наведваюць яго і выпускнікі, а таксама прадстаўнікі арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў Пінска ды іншых гарадоў. За год праведзена 80 экскурсій, наведала музей больш за тысячу чалавек. У Кнізе водгукаў запісана шмат добрых словаў і пажаданняў. А гэта значыць, што наведванне музея пакінула незабыўнае ўражанне.

***Акрамя ўсяго, у музеі сабрана шмат экспанатаў, што апавядаюць пра гісторыю беларускай вёскі, побыт яе жыхароў. Таму пазней, верагодна, мы адкрыем новую выставачную залу з расповедам пра этнаграфію Палесся. І гэтыя экспанаты не раз парадуюць наведвальнікаў убачаным.***

***Святлана АЛЕНІЧАВА,** захавальніца экспанатаў музея Установы адукацыі «Палескі дзяржаўны універсітэт»*



*Будынкі Пінскага дзяржаўнага універсітэта і ягоная бібліятэка (фотаздымкі з інтэрнэт-сайтаў)*

# Мікола Мокры з Сухіх

**_Краязнаўца Анатоль Рогач адшукаў карані вядомага авіяканструктара Паўла Сухога на Вілейшчыне. А іменна: бацька Восіп Сухі нарадзіўся ў вёсцы Вязынь, а маці Лізавета з Гісічаў – у вёсцы Ручыца. Але вядомасць Паўла Восіпавіча адсунула на другі план асобу стрыечнага брата Андрэя Сухога, чыё жыццё звязана з Вілейшчынай._**

25 жніўня 1892 года ў мястэчку Вязынь Вілейскага павета ў сям'і малазямельнага селяніна Мікалая Андрэевіча і Аляксандры Восіпаўны Сухіх нарадзіўся сын, якога ў гонар дзеда назвалі Андрэем. Разам з імем ад дзеда хлопчыку перайшлі і веды. У свой час Андрэя Аляксеевіча Сухога памешчык як здольнага юнака накіраваў на два гады вучыцца ў школу пчалярства ў Чарнігаўскую губерню. Андрэй Мікалаевіч па сканчэнні народнай вучэльні ў Вязыні, вучыўся ў гарадской вучэльні ў Вілейцы (1905–1909). Пасля чаго год працаваў настаўнікам у народнай школе ў вёсцы Кобузі Вязынскай воласці.

*«Паступіў я ў Горы-Горыцкае вучылішча ў 1910 годзе,* – успамінаў пазней Андрэй Мікалаевіч. – *Трэба сказаць, што вучоба там, на той час, была пастаўлена добра. Мы мелі неблагую базу практыкі. Заняткі ў вучылішчы вялі добра падрыхтаваныя выкладчыкі»* (Андрэй Сухі «З юначых гадоў» // Максім Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы. Мн., 1984). Веды ў навучальнай установе давалі сапраўды высокія. Аб гэтым сведчыць і ягоны атэстат – усе пяцёркі. Гэта агульнаадукацыйныя прадметы, прыродазнаўства, сельскагаспадарчыя навукі і інш. У атэстат занесены таксама прадметы, да якіх выявіў схільнасць студэнт. Сярод іх – геадэзія, карэннае паляпшэнне сельскагаспадарчых зямель.

У 1909 годзе ў Горкі паступіў Максім Гарэцкі. Калі ў вучэльню прыйшоў Сухі, ён адразу прыкмеціў пісьменніка. *«Сярод нашага маладога гуртку я неяк адразу вылучыў Максіма па яго сур'ёзнасці ў кожнай справе і адносінах да сяброў. У скорым часе нас злучыла і супольная цікавасць да беларускага друкаванага слова».* Пад уздзеяннем сяброўства з Гарэцкім Андрэй Сухі з 1912 года пачаў пасылаць невялікія нататкі з жыцця роднай вёскі Вязынь і ваколіц у «Нашу Ніву». Падпісваўся Сухі псеўданімам Мікола Мокры.

Яшчэ падчас вучобы ў Вілейскім гарадскім вучылішчы, у 1908 годзе, ад выкладчыцы французскай мовы Алены Кульковай да Андрэя Сухога трапіў сшытак з вершамі Якуба Коласа. Асабліва спадабаўся хлопцу верш «Нашым ворагам». Па рукапісным варыянце Сухога ў 1920 годзе Максім Гарэцкі надрукаваў згаданы верш у сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры». Прычым давалася спасылка: *«Па спіску агранома-каморніка з Вілейшчыны Андрэя Сухога».*

У 1914 годзе ў Горкі паступіў малодшы брат Максіма Гарэцкага Гаўрыла (у будучым стаў сусветна вядомым геолагам). Андрэй пасябраваў і з Гаўрылам.

У 1916 годзе Сухі закончыў вучобу ў Горках. З 1 ліпеня да 10 кастрычніка Андрэй Сухі працаваў тэхнікам у другой Паволжскай вышукальна-будаўнічай партыі па арашэнні Самарскіх стэпаў. Упраўленне знаходзілася ў горадзе Саратаве. З верасня таго ж года Сухі стаў студэнтам Маскоўскага сельскагаспадарчага інстытута (пазней імя Ціміразева). Але 12 кастрычніка яго прызвалі ў войска. Быў у падрыхтоўчым батальёне ў Ніжнім Ноўгарадзе. З 1 студзеня да 1 ліпеня 1917 года ў Сергіеўскім артылерыйскім вучылішчы ў Адэсе, якое скончыў у званні прапаршчыка. Ва Украіне авалодаў украінскай мовай. Як успамінае дачка Таццяна Андрэеўна, бацька ўсё жыццё расказваў анекдоты выключна па-ўкраінску.

З Адэсы прапаршчыка Сухога накіравалі на Заходні фронт. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у снежні, абраны і зацверджаны на пасадзе старэйшага памочніка камандзіра парка дывізіі. Дэмабілізаваны 29 студзеня 1918 года.

Па вяртанні дамоў Андрэй Сухі працаваў на гаспадарцы бацькоў у Вязыні. А пасля пачалася працоўная дзейнасць на дзяржаўных пасадах. Прычым назіраецца нават невялікі кар'ерны рост. Са жніўня 1918 года ён служыў у Мінскім лясным упраўленні і працаваў «съёмщиком при лесоустройстве» ў Бабруйскім павеце. Падчас аднаго з наведванняў Мінска Сухі сустрэўся з Максімам Гарэцкім. Па вызваленні Мінска ад нямецкай акупацыі Сухі працягваў служыць у Лясным аддзеле.



*Андрэй Сухі (сядзіць) з бацькам і сынам Гарэцкімі – Гаўрылам і Радзімам*

І вясной 1919 года атрымаў званне памочніка ляснічага Губскага лясніцтва ў Куранцы Вілейскага павета. Ад моманту заняцця тэрыторыі палякамі (чэрвень 1919 года) працаваў на гаспадарцы свайго цесця Фамы Лукіча Адамовіча ў вёсцы Васюлькі Крывічскай воласці Вілейскага павета. З Верай Адамовіч, якая нарадзілася ў Княгініне, Сухі ажаніўся пасля заканчэння вучобы ў Горках. Вера Фамінічна была выкладчыцай рускай мовы да замуства (у царскай Расіі гэта дазвалялася рабіць толькі да шлюбу). У сям'і Андрэя і Веры Сухіх было чацвёра дзяцей: тры сыны (Мікалай, Георгій, Аляксей) і дачка Таццяна. У сям'і гаварылі па-беларуску, па-руску, па-польску. Толькі маці прынцыпова размаўляла з усімі выключна па-руску, хоць муж быў гэтым не задаволены. Але такой жанчынай была Вера Фамінічна.

Па заняцці тэрыторыі павета ў чэрвені 1920 года Чырвонай Арміяй Сухі быў прызначаны Лясным аддзяленнем у Вілейцы на пасаду ляснічага Ільскага лясніцтва Вілейскага павета і служыў да заканчэння вайны ў кастрычніку. А затым працягваў працаваць на гаспадарцы цесця. З вясны 1921 працаваў прыватным землямерам у вёсцы Княгініна Крывічскай воласці. У гэты час Андрэй Сухі часта бываў у Вільні, дзе некалькі разоў сустракаўся з Максімам Гарэцкім. Апошняя іх сустрэча адбылася ў 1923 годзе, пасля выхаду пісьменніка з Лукішак. *«Максім шчыра раіўся са мной аб пераборах у Мінск... Я падтрымаў яго намер. Не думалася, што гэта будзе апошняй нашай сустрэчай».*

У 1923 годзе Андрэй Сухі з сям'ёй пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Вілейку. Цяжкасці былі з жыллём. Свой дом пабудаваў на вул. Сацыялістычнай, 28 толькі ў 1925 годзе.

Працаваў таксама ў Валожынскім павеце. Працы ў дзяржаўных установах Андрэю Мікалаевічу за польскім часам не давалі, бо лічыўся ён палітычна ненадзейным. Гэта з-за таго, што стрыечны брат Павел Сухі жыў у Савецкай Расіі. Тым больш, Павел Восіпавіч быў таленавітым інжынерам-канструктарам. А Паўлу Восіпавічу было небяспечна мець родных у замежжы – у Польшчы. Авіяканструктар рэпрэсій пазбег. А вось роднага брата Андрэя – Сяргея Сухога, які выехаў жыць у Маскву, пасадзілі ў лагер на Калыме на 10 гадоў. Вярнуўся ён толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны. Андрэю Сухому прапаноўвалі ехаць працаваць нібыта на дзяржаўную пасаду на Познаньшчыну, але ён адмовіўся. Зразумела, бо там нічога невядома, а ў Вілейцы тое-сёе ўжо было за плячыма...

У 1930 годзе Сухі здаў экзамен на званне прысяжнага землямера. Каб атрымаць гэтую пасаду, яму прыйшлося ехаць у Варшаву. Старшынёй экзаменацыйнай камісіі аказаўся студэнт з Горак, які вучыўся з Сухім. І быў старшыня, па расповедах Андрэя Мікалаевіча, вельмі слабым студэнтам. Экзаменатар задаваў пытанні, на якія сам, можа, і не адказаў бы.

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Вера Фамінічна разам з малодшымі дзецьмі эвакуявалася ў Казахстан. Андрэй Мікалаевіч са старэйшым сынам застаўся ў Вілейцы: думаў абараняць краіну. Але немцы наступалі вельмі шпарка. Прыйшлося і ім выехаць у Сібір. Загадзя з жонкай дамовіліся звязвацца праз брата Мікалая, які жыў у Маскве. Так і адбылося.

Па заканчэнні вайны Сухія вярнуліся ў Вілейку. Дзеці ўжо былі дарослыя, пачалі злятаць з бацькоўскага гнязда. Андрэй Мікалаевіч выйшаў на пенсію. Жыццё праходзіла даволі аднабакова. Ратавала ліставанне з сябрамі, з якімі вучыўся ў Горках. Гэта было сапраўднае сяброўства. Узяць хаця б лісты таго часу. У іх да ўжо немаладога Андрэя Сухога звяртаюцца з памяншальна-ласкальным адценнем: *«Дорогой Андрюша»...*

**_Андрэй Мікалаевіч быў сведкам вялікіх гістарычных падзей. Па яго ўласным лёсе можна прасачыць за мінуўшчынай нашай Бацькаўшчыны. Таму мы павінны захоўваць памяць пра такіх людзей._**

***Сяргей МАКАРЭВІЧ***



*Горныя рэчкі ёсць і ў Беларусі!*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

# Ручаёўка

***Вёска Ручаёўка Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці з'яўляецца цэнтрам сельсавета і размяшчаецца каля аўтамабільнай дарогі Лоеў–Брагін на рацэ Песачанка, якая ўпадае ў пойме Дняпра ў возера Лутаўскае.***

Дакладных звестак аб часе ўзнікнення вёскі няма. У XIX стагоддзі Ручаёўка вядома як сяло на паштовым тракце, які вёў з Брагіна ў Рэчыцу праз мястэчка Лоеў. Назва вёскі, верагодна, паходзіць ад прыкмет мясцовасці: Ручаёўка размешчана каля рачулкі-ручая, якой і з'яўляецца Песачанка. З пачатку XIX стагоддзя Ручаёўка цэнтр воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Акрамя яе, у склад воласці ўваходзілі вёскі Алішэеўка, Баршчоўка, Буда-Петрыцкая, Будзішча, Грохаў, Дамамеркі, Карчомка, Крывін, Мікалаеўка, Новы Макрэц, Стары Макрэц, Рудня-Пясочная, Рудня-Удалёўская, Удалёўка, Шыя, Ястрабка.

У 1816 годзе Ручаёўская сялянская грамада налічвала 23 двары, каля 120 жыхароў. Зямля і сяляне з'яўляліся ўласнасцю памешчыкаў Крушэўскіх. У Ручаёўцы дзейнічала Свята-Узнясенская царква, якая ўваходзіла ў склад першай благачыннай акругі Стрэлічаўскай царквы Рэчыцкага павета. У 1850 годзе ў вёсцы было 27 двароў, 177 жыхароў і яна з'яўлялася ўласнасцю памешчыцы Быкоўскай. У 1861 годзе ў сяле налічвалася ўжо 45 двароў.

У 1864 годзе ў Ручаёўцы было адкрыта народнае вучылішча, якое ўтрымлівалася за кошт сродкаў дзяржаўнага казначэйства і мясцовых сялян. Адным з першых настаўнікаў вучылішча быў Фёдар Карповіч, які скончыў курс Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. У 1870 годзе Ручаёўская воласць налічвала 12 сельскіх таварыстваў, 13 сяліб, 366 двароў, 4 абраныя валасныя і сельскія службовыя асобы, 4 найміты, валасная казна налічвала 807 рублёў па ўнутраным кіраванні і 500 рублёў агульных капіталаў, утвораных у складчыну, 2 хлебазапасныя магазіны. У іх хлеба мелася ў наяўнасці – 918 чвэрцяў, у пазыцы і нядоімцы – 501 чвэрць (чвэрць – 209,9 л). Сярод насельніцтва пазначана 985 сялян-уласнікаў, 11 аднадворцаў, адзін вольны хлебаараты, 8 душ адстаўных сялян і іх дзяцей – усяго 1 005 чалавек. У народным вучылішчы – 21 хлопчык і 3 дзяўчынкі, сярэдні кошт навучання кожнага складаў 9 рублёў на год.

У воласці налічвалася 960 рабочых коней, 480 галоў буйной рагатай і 630 галоў дробнай жывёлы. Жыта высявалася 935 асьмін, збіралася 1 870 асьмін, пшаніцы 24–48, ячменю 212–424, аўсу 900–2250, грэчкі 900–1350, ільну 56–112, гароху 28–56, бабоў 10–15, бульбы 1100–1650 асьмін адпаведна (асьміна – 105 л).

*(Заканчэнне на стар. 6)*



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–9)*

Пасля публікацыі ў «Северо-Западном крае» ён выступіў у беларускамоўным друку толькі праз два гады – вершам «Касцу» ў газеце «Наша Ніва». Зразумела, маладасведчаныя маглі палічыць, што ён піша рэдка ці не зусім сур'ёзна адносіцца да літаратурнай творчасці. Нават больш чым праз два дзесяцігоддзі (1928) Я. Купала будзе вымушаны тлумачыць літаратуразнаўцу Л. Клейнбарту: «Кстати, отмечу здесь, что сразу и впоследствии до 1915 г. я писал много, и это мне давалось легко. Я мог за один день написать 200–300 строк стихов и редко когда после написания исправлял. Писал где и как попалось: при костре, при луне, ощупью ночью, в дороге, за работой. Помню стихотв. "Чаго вам хочацца, панове?" (верш "Ворагам Беларушчыны" – тлумачэнне ў вышэйназваным томе аўтара раздзела "Летапісу жыцця і творчасці" Янкі Саламевіча) написано мною при перегонном и контрольном аппарате в винокур. заводе, когда я должен был наблюдать за этим аппаратом, чтобы регулярно поступал в него спирт».

«Громадная часть написанного мною пропала, – скардзіцца далей вучонаму пясняр. – Это было так: когда я жил в деревне, много написанного я передавал Самойло... При обысках... или других обстоятельствах часть моих материалов пропала. Потом я массу посылал в Вильно в "Нашу Ніву" револ. стихов, которые по цензурн. тогдашним условиям печатать нельзя было. И они где-то с архивом "Нашай Нівы" пропали».

Асобныя вершы Я. Купалы, напісаныя ў 1905–1907 гадах, пабачаць свет яшчэ ў «Нашай Ніве» за 20 ліпеня, 3 і 31 жніўня, 14 і 28 верасня, 12 і 26 кастрычніка 1907 года, некаторыя – пазней там жа і ў іншых выданнях, у першых ягоных кнігах, што паспеюць выйсці да Першай сусветнай вайны. Нямала ягоных твораў знікла і, мабыць, назаўсёды, але і шмат пасля бурлівых падзей рэвалюцый і грамадзянскай вайны было вернута аўтару добрымі людзьмі, якія і ў віхурныя часы захоўвалі ягоныя рукапісы. Яны, невядомыя шырокаму чытачу творы, затым друкаваліся і ў 1920-я, і нават у 1930-я гады, дапаўняючы ягонае паэтычнае аблічча на пачатку творчасці. Напрыклад, яны у 1972 г., калі пачаў выходзіць сямітомны Збор твораў песняра, цалкам склалі першы том, разам з Купалавымі перакладамі ў 1905–1907 гг. вершаў і ўрыўкаў з паэм А. Міцкевіча, Т. Шаўчэнкі, І. Крылова, М. Някрасава, Ул. Сыракомлі, М. Канапніцкай і іншых.

*(Працяг будзе)*



Ядвігін Ш.

## Пецярбургская прэм'ера «Паўлінкі»

***Апрача падрыхтоўкі «Паўлінкі» трэба было ўдзельнічаць і ў хоры, якім кіраваў літоўскі кампазітар Станіслаў Шымкус.***

Апошняя генеральная рэпетыцыя адбылася ў касцюмах і грыме. Цяжка было дастаць андаракі і гарсэцікі для дзяўчат, нагавіцы і верхнюю вопратку для хлопцаў. Пра гэта загадзя падумалі: мабілізавалі ўсе свае сілы. Жанчыны дашывалі кашулі і фартушкі, сабралі сёе-тое сярод рабочых беларусаў, частку прыслалі з вёсак. Шмат было спрэчак, як абуць Пранціся Пустарэвіча – у боты ці ў лапці. Большасць лічыла, што такі п'янчужка не можа быць у ботах. Прытым трэба ж было паказаць і «нацыянальны» абутак – лапці, так што і некалькі хлопцаў-музыкаў абулі ў лапці.

Наступіў дзень выступлення ў клубе «Пальма», які знаходзіўся ў рабочым раёне. За некалькі дзён да спектакля амаль усе білеты былі распраданы сярод рабочых, служачых і студэнтаў, так што зала была паўнюсенькая. Шмат хто з публікі, што жадала паглядзець беларусаў, не змог ужо дастаць білетаў і змушаны быў вярнуцца дамоў.

Я дрыжэла, як у ліхаманцы. Баялася, што не здолею саўладаць са сваім голасам. Яшчэ пры закрытай заслоне пачала спяваць «Ой, пайду я лугам, лугам». А як адкрылася заслона, дзе падзеўся страх. Я не бачыла публікі, забылася, што знаходжуся на сцэне. У гэты момант шчыра кахала Якіма і абуралася дэспатызмам бацькі. У сцэне гутаркі з Агатай словамі Купалы я вылівала свой сапраўдны боль душы. «А няхай сабе будзе, што мае быць, – я свайго такі даб'юся...» Ці ж не раз у сваім жыцці я сама сабе гэта гаварыла? І пры гэтых словах, здавалася, агонь рашучасці ахапіў мяне.

У другім акце, падчас вечарынкі ў Крыніцах, я была засмучоная, думкі мае беглі далёка ад гасцей, на душы трывога, непакой: дзе ж цяпер Якімка? Ці ўдасца ўцячы з дому? А тут трэба танцаваць, весяліцца... Эх! Кідаюся як у вір галавою:

– Зайграйце, калі ласка, польку, але такую, каб аж свет хадыром пайшоў!

Ах, каб хоць на хвіліну забыцца, каб не чуць, як балюча шчыміць сэрца! Пачынаем спяваць! Добра, што Пранціcь падышоў і дырыжуе сваёй пляшкай. Я адыходжу, стаю ля печы, залажыла назад рукі. Вочы мае глядзяць паверх гасцей, удаль... Уяўляю сабе, што побач са мной стаіць любы Якімка, і, прытуліўшыся тварам да печкі, пяшчотна гладжу яе рукой... Божухна! Каб толькі бацька і госці не заўважылі майго настрою! Стараюся адагнаць надакучлівыя думкі, кідаюся забаўляць гасцей, але весялосць мая штучная, няшчырая. Адольф мяне раздражняе, я не магу прыхаваць сваёй злосці на яго. Усю сцэну з ім пасля адыходу гасцей праводжу нервова, у зласлівым іранічным тоне.

Воплескі, якія раз-пораз узнікаюць у зале, змушаюць спыняцца, але не выбіваюць мяне з каляіны.

На сцэну ўбягае Купала, абдымае мяне і горача цалуе. А воплескі з залы грымяць і грымяць.

– Паўлінка! Досыць цалавацца! Даю заслону, – крычыць Пранціcь Пустарэвіч-Шыпіла. Янка ўцякае са сцэны. Мы кланяемся публіцы.

– Аўтара! Аўтара! – грыміць зала. З-за куліс выводзяць Купалу. Ён бярэ мяне за руку, падводзіць да рампы, і мы разам кланяемся. Студэнты ўрачыста падаюць яму гадзіннік з выграваваным надпісам «Бацьку "Паўлінкі" ад беларускіх студэнтаў». А Купала падносіць мне два яшчэ зусім новенькія, толькі што з-пад машыны экземпляры «Паўлінкі». На адным з іх на ўсю старонку ў 32 радкі верш, прысвечаны мне...

Доўга публіка не адпускала нас са сцэны, але трэба знімаць грым і станавіцца да хору. Спяваем «А хто там ідзе?», «Ой, пайду я лугам», «Ды ўжо сонейка», «Чачотачку», хлопцы дэкламуюць вершы Купалы «Град», «Адгукніся, душа» і іншыя.

Пасля танцаў Купала праводзіў мяне на кватэру, і мы доўга яшчэ дзяліліся сваімі перажываннямі.

***(Пра падзеі 1913 года – паводле кнігі Паўліны МЯДЗЁЛКІ «Сцежкамі жыцця»)***

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–9)*

## Пінкавічы

«Пінкавічы, вёска над ракой Пінай, павет Пінскі.., за 3 км ад Пінска, мае 35 двароў з поўным надзелам. Царква ў імя Божай Маці, мае на падставе даўніх запісаў 34 дзесяціны зямлі і 2 рыбныя тоні. Каля 550 прыхаджан абодвух полаў. Воласць складаецца з 6 сельскіх грамад (вобшчастваў), налічвае 314 двароў, у якіх жывуць 1 373 селяніны, надзеленыя 4 959 дзесяцін зямлі... Мясцовасць выгадная, значнае рыбалоўства, вялікае мноства лугоў, глебы глеістыя, лёгкія, багатыя; народ займаецца найбольш сплавам і рыбалоўствам» (з дакументаў за 1887 год, пераклад з польскай).

Працуючы з восені 1904-га да пачатку 1906-га ў Пінкавічах, Я. Колас быў сведкам аграрных хваляванняў пінкавіцкіх сялян, склаў ад іхняга імя хадайніцтва да мясцовага багатага памешчыка С. Скірмунта (меў у маёнтку каля Пінска прыкладна 2 250 дзесяцін зямлі, прамысловыя прадпрыемствы, у тым ліку чыгуналіцейны завод), не зважаючы, што за гэта яго могуць і строга пакараць, ажно да арышту. У Коласаўскім зборніку, складзеным Г. Кісялёвым, прыводзіцца тэкст таго ліста, дзе сяляне дабіваліся для сябе права карыстацца пашамі, возерам і балотам, што прысвоіў сабе буйны землеўладальнік. Той вылічыў, што гэтую петыцыю напісаў пінкавіцкі настаўнік, і запатрабаваў у школьнага начальства пакараць яго, які «дурно влияет на местных крестьян». Урэшце справа трапіла да сумна вядомага мінскага губернатара Курлова (ён 31 кастрычніка 1905 г. дасць дазвол жандарам расправіцца з антыцарскім мітынгам у Мінску, у выніку чаго будзе забіта да 100 мінчукоў і каля 300 паранена), і той загадаў «в случае подтверждения ("незаконных требований к помещику Скирмунту") немедленно арестовать названное лицо». У студзені 1906 года «ў парадку пакарання» заступніка пінкавіцкіх сялян Я. Коласа з Пінскага павета пераводзяць у Верхменскае народнае вучылішча Ігуменскага павета (цяпер Смалявіцкі раён).

## Верхмень

«Верхмень, вёска з валасным праўленнем, над ракой Мень, правым прытокам Чарніцы, павет Ігуменскі... За 5 міль ад Ігумена, мае 18 двароў. Міхайлаўская прыхадская царква, заснаваная Манюшкамі ў 1839 годзе, мае на падставе даўніх запісаў каля трох з паловаю валок; звыш 2 300 прыхаджан... Воласць складаецца з 6 сельскіх грамад (вобшчастваў), мае 260 двароў, 2 014 сялян мужчынскага полу, якія атрымалі пры рэформе 5 369 дзесяцін. Мясцовасць лясістая, глебы лёгкія» (з дакументаў 1893 года, пераклад з польскай).

*(Працяг будзе)*



Пінкавіцкая школа

## ...І Купалу, і Коласу,

### або Перадумовы пачатку іхняй літаратурнай творчасці

*Самы важнейшы і непраломны закон жыцця – гэта людская мова, праз каторую чалавек стаў найвышэй ад усякага стварэння пад сонцам.*

***Я. Купала, 1910 г.***

...Я. Купала друкуе свой першы верш «Мужык» у 1905 годзе, Я. Колас упершыню заяўляецца ў друку вершам «Наш родны край» у 1906-м. Гэтыя іхнія творы, як і некаторыя пазнейшыя, хоць і па-рознаму, але будуць перакклікацца тэматычна: гаротная доля вёскі і сялян. І раней, і цяпер у некаторых чытачоў гэтая акалічнасць не выклікае значнай цікавасці – маўляў, і яны, класікі, пачыналі занадта «па-сялянскаму», «без агульначалавечага», цікавага ўсім. Ды калі не павярхоўна ўнікнуць у сэнс іхняй творчасці, то нельга не асэнсаваць, што на пачатку творчага шляху яны проста павінны былі быць менавіта такія. Як мудра зазначаў геній рускай літаратуры Ф. Дастаеўскі, агульначалавечае не можа стацца само па сабе, яно прарастае з глыбока нацыянальнага, народнага. З гэтага якраз і пачалі Я. Купала ды Я. Колас.

Нават бегла-кароткія папярэднія публікацыі ў «КГ» падкрэслівалі той нюанс, што перш чым засведчыцца ў друку, яны ўжо даволі грунтоўна азнаёміліся з нашай гісторыяй, папярэдняй літаратурай, паспрабавалі свае творчыя сілы (Купала на польскай мове, Колас – на рускай, абодва напісаўшы не адзін дзесятак вершаў), вызначыліся не проста як грамадзяне і паэты, але і як асобы менавіта з беларускім светапоглядам. Асабліва па разуменні XIX стагоддзя і яго ролі ў лёсе многіх народаў, літаратур, па ўсведамленні таго, што ў многіх краінах Еўропы яшчэ да XIX стагоддзя склаліся дзяржавы і нацыі, былі добра развітыя іхнія літаратуры, а ў новую эпоху французская, англійская і іншыя пайшлі па шляху росквіту. Пераадольвалі раздрабленне, імкнуліся да нацыянальна-дзяржаўнага аб'яднання і далейшага як эканамічнага, так і духоўнага развіцця італьянцы і немцы. А вось такія этнасы, як балгары, чэхі, славакі і іншыя, пад чужаземнай акупацыяй імкнуліся ўтрымаць тое, што было раней, і не знікнуць.

***Г.Д.***

*(Працяг будзе)*

Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ








*(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2)*

Ўсёй зямлі ў ручаёўскіх сялян, выкупныя акты якіх былі канчаткова зацверджаны ў 1870 годзе, налічвалася 2 230 дзесяцін, на іх прыпадала 16 266 рублёў выкупной пазыкі, што патрабавала выплаты 975 рублёў штогадовых выкупных плацяжоў. Акрамя таго, сяляне абавязаны былі выконваць натуральныя павіннасці у аб'ёме 1 260 пешых і 434 конных дзён, несці рэкруцкую павіннасць у разліку на 985 акладных душ 10 рэкрутаў і 237 рублёў і 30 капеек грашыма для іх адпраўкі.

Сярэдні памер падатковых плацяжоў сялян-уласнікаў складаў 1 рубель 69 капеек з мужчынскай душы, а таксама земскіх збораў 1/3 капейкі, збору на міравыя ўстановы 2 3/4 капейкі, выкупных плацяжоў – 32 % капейкі з дзесяціны.

Ў 1872 годзе ў Ручаёўцы была ўзведзена на каменным фундаменце царква з дрэва і з жалезным дахам, на будаўніцтва якой прыхаджане ахвяравалі 6 тысяч рублёў. Стары будынак царквы быў перавезены і ўстаноўлены ў вёсцы Крупейкі, што каля Лоева. У 1879 годзе Ручаёўскі прыход налічваў каля 5,7 тысяч прыхаджан, якія ў асноўным адносіліся да сялянскага саслоўя і пераважна займаліся земляробствам і бандарным промыслам. Пры царкве працавалі папячыцельства і царкоўна-прыходская школа. Настаяцелем царквы ў гэты час быў Даніла Праневіч. У 1886 годзе ў Ручаёўцы налічвалася 67 двароў, 469 жыхароў, дзейнічалі валаснoe праўленне, народнае вучылішча з 45 вучнямі, з якіх толькі 4 дзяўчынкі, сінагога.

У 1897 годзе ў Ручаёўцы было 66 гаспадарак, 533 жыхары, з іх мужчын – 271, жанчын – 262, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова.

У 1900/1901 навучальным годзе ў Ручаёўскім народным вучылішчы налічвалася 50 школьнікаў, у ліку якіх было 7 дзяўчынак. На пачатку ХХ стагоддзя тут працавалі настаўнікамі Васіль Яцэнка і Васіль Сцяпанавіч Белабровік, які скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, Даніл Магілявец і іншыя. У 1903 годзе Ручаёўскі царкоўны прыход складалі вернікі 19 вёсак Ручаёўскай воласці: прыхаджан налічвалася 2 940 мужчын і 2 833 жанчыны. Царкоўнай зямлі было 167 гектараў. На пачатку ХХ стагоддзя святаром тут служыў Фёдар Казлоўскі, які скончыў Мінскую духоўную семінарыю, потым Самуіл Ачапоўскі.

У 1907 годзе старшынёй Ручаёўскага валаснога праўлення працаваў В. Новік, затым Сямён Жураў, пісарам – Аляксандр Паліч, але ў 1912 годзе кіраўніком воласці быў ужо Дзмітрый Кацуба, а сакратаром – Яраслаў Заслаўскі. У 1909 годзе Ручаёка – сяло, у якім налічвалася 104 двары і 602 жыхары.

29 снежня 1910 года ў Ручаёўцы нарадзіўся Сяргей Дзмітрыевіч Лямешчанка (1910–1998), будучы заслужаны заатэхнік БССР (1958), Герой Сацыялістычнай Працы (1966), які на працягу 1959–1991 гадоў працаваў старшынёй калгаса імя Кірава Слуцкага раёна Мінскай вобласці.

Ёсць звесткі, што напярэдадні кастрычніцкіх падзей 1917 года старшынёй праўлення Ручаёўскай воласці быў Каждуб, а сакратаром – Касьян. У гэты час у Ручаёўцы налічваліся 132 гаспадаркі, працаваў фельчарска-акушэрскі пункт, магазін, арыштанцкая і шынок, якія ўтрымлівала яўрэйская сям'я.

Жыццё большасці сялян было цяжкім, многім не хапала зямлі. Толькі землямер Галенка меў 400, ды селянін Касіёр – 50 дзесяцін зямлі. Хлеба часта не хапала да новага ўраджаю, і беднасць жыла ў большасці хатах. Вось як аб гэтым успамінае жыхарка Ручаёўкі Кацярына Мікітаўна Прымак: «... Наша сям'я была вялікая: бацька, маці, пяцёра дзяцей. А зямлі толькі 4 вузкія палоскі. Хлеба хапала толькі да сярэдзіны зімы. Бацька з вясны да зімы пасвіў статак, маці хадзіла на адпрацоўкі, на працу ва ўласнай гаспадарцы часу было мала. Зімой бацька займаўся бандарствам, а вырабы вазіў прадаваць на Брагіншчыну, браў за працу зерне, бульбу, малочныя прадукты, мяса – і гэтым жылі. І хаця ў Ручаёўцы была школа, у ёй вучылася адна толькі сярэдняя сястра. Я ж сама з 10 гадоў ужо была ў няньках на Брагіншчыне, а старэйшая сястра з братам пасвілі авечак і свіней па найме. Наша адзенне было з ільнянога палатна, што ткала, фарбавала і сама ж шыла маці. Добрая кашуля часта была адна на дваіх. Абуткам служылі лапці з лыка. У доме, а гэта было адно невялікае памяшканне, стаялі драўляныя лаўкі, стол, пад столлю палаці, дзе спалі ўсе разам. Посуд быў з гліны, або драўляны. І хаця ў бацькі былі залатыя рукі, а маці была вельмі ўвішнай, хлеба ў доме ў дастатаку ніколі не было. І так жыло большасць аднавяскоўцаў».

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Ручаёўцы быў створаны валрэўкам у складзе Манжэста, Арцёмчыка, Стрыбульскага і іншых. Узначальваў рэўкам Аляксандр Мікалаевіч Юрчанка, удзельнік руска-японскай і Першай сусветнай войнаў, Георгіеўскі кавалер, ураджэнец суседняй вёскі Дамамерк. Адразу пасля рэвалюцыі ствараецца бальшавіцкая партыйная суполка ў складзе А. Кацубы, С. Арцёмчыка, Ф. Кацубы, І. Кацубы, В. Дашука, С. Касцючэнкі, якая была праваднікам бальшавіцкай палітыкі на тэрыторыі воласці. Ім дапамагалі камсамольцы Прымак, М. Філон, В. Рак і іншыя. Па іх ініцыятыве пачаў дзейнічаць камбед і таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі.

З красавіка 1919 года Ручаёўская воласць увайшла ў склад Гомельскай губерні, у маі 1923 года была далучана да Лоеўскай воласці, а ўжо ў снежні 1926 года Ручаёўка стала цэнтрам сельсавета Лоеўскага раёна Рэчыцкай акругі. Першым старшынёй Ручаёўскага сельсавета працаваў Сяргей Іванавіч Бярнацкі, пазней Ульян Крус.

Паводле перапісу 1926 года, у сяле было 175 гаспадарак, 910 жыхароў, працавалі 2 ветраныя млыны, кузня, хата-чытальня, 4-класная працоўная школа 1-й ступені. У матэрыялах перапісу насельніцтва ў Ручаёўцы найбольш часта сустракаецца прозвішча Кацуба.

У канцы 1926 года ў Ручаёўскай школе займаліся 106 вучняў, якіх навучалі 3 настаўнікі разам з загадчыкам Т.В. Крывянковым. Працавала бібліятэка, у якой налічвалася 71 кніга для настаўнікаў, 178 кніг для дзяцей і 408 падручнікаў, пункт ліквідацыі непісьменнасці, у якім займаліся 32 чалавекі.

У 1927 годзе Ручаёўскі сельсавет увайшоў у склад Гомельскай акругі (з 1938 года – Гомельская вобласць), тады ж да Ручаёўскага савета былі далучаны Алішэўскі, Грохаўскі, Карчомскі і Крывінскі сельсаветы, якія існавалі дагэтуль.

1929 год у гісторыі вядомы, як «год вялікага пералому», калі большасць сялян сілай сталі заганяць у калгасы. У Ручаёўцы ствараецца калгас «Чырвоны вострaў», які ўзначальваў былы рабочы, камуніст Даркевіч. Першымі калгаснікамі былі беднякі Дзяніс Лямешчанка, Сямён Лямешчанка, Харытон Кацуба, Аляксей Кацуба, Дзмітрый Крус і іншыя. З 1931 года калгас пачаў называцца «Саўнаркам». Ён аб'ядноўваў 97 гаспадарак, узначальваў яго старшыня Сцяпан Васільевіч Пінчук. Калектывізацыя праходзіла ў вострай класавай барацьбе. Былі аднесены да кулакоў і выселены нават серадняцкія сем'і. Да 16 мая 1930 года ў Ручаёўскім сельсавеце была раскулачана 31 сям'я, а ў 1933 годзе пазбаўлены выбарчых правоў 41 чалавек. Былі рэпрэсаваны і выселены сем'і У. Бярнацкага, П. Кацубы, М. Кацубы, Ц. Кацубы, Ц. Крывянкова, С. Бярнацкага, С. Зубахі і іншыя. 27 снежня 1933 года рашэннем Лоеўскага райкама КП(б) і райвыканкама быў выключаны з партыі і аддадзены пад суд старшыня Ручаёўскага сельсавета Шчэрба за зрыў нарыхтовак ільну і пянькі.

Бедната з радасцю сустрэла савецкую ўладу, але і яна не прынесла ім палёгку. Не паспелі зямлю атрымаць, як яе тут жа забралі. У калгасе працавалі за працадні, а фактычна бясплатна, галадалі, плацілі высокія падаткі. У канцы 1930-х гадоў сяло Ручаёўка было ператворана ў вёску. У 1941 годзе яна налічвала 103 двары і 496 жыхароў.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны многія ручаёўцы прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Загінулі на франтах вайны 60 вяскоўцаў, сярод іх Р. Бярнацкі, У. Бярнацкі, Ф.Ф. Кацуба, Ф.М. Кацуба, А.С. Кацуба, М. Кацуба, Р.Д. Лямешчанка, І.М. Пінчук, М.М. Пінчук, М.І. Паўлюшчанка, А.Р. Прымак, П.І. Прымак, Цыплякоў і іншыя. У часы акупацыі фашысты стварылі ў Ручаёўцы гарнізон з 32 паліцэйскімі, але ён быў разгромлены партызанамі ў канцы 1942 года. 11 лістапада 1943 года Ручаёўка была вызвалена воінамі 12, 76, 77 і 55 дывізій 61-й арміі генерала П.А. Бялова. У складзе 61-й арміі фарсіраваў Днепр і вызваляў Лоеўскі раён, а затым дайшоў да Берліна ручаёвец Мікалай Кацуба. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 608 савецкіх воінаў, загінулых у 1943 годзе ў баях за вызваленне вёсак Ручаёўскага савета, сярод іх Герой Савецкага Саюза В.М. Лебедзеў. У 1963 годзе на магіле ўстаноўлена скульптура воіна ў жалобе са схіленым сцягам.

Ручаёўка значна пацярпела ў гады вайны. Было загублена 28 мірных жыхароў. Нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 годзе была ўзарвана Свята-Узнясенская царква. Падчас баёў у кастрычніку 1943 года Ручаёўка амаль цалкам выгарэла, ацалела толькі 7 хат. Амаль нічога не засталося і ад калгаснай маёмасці, таму прыйшлося ўсё адбудоўваць. Былі выкапаны зямлянкі, калгас узначаліў былы рабочы Дваянаў. Пад яго кіраўніцтвам заклалі сад, пабудавалі сельскі клуб, будынак праўлення, дом для старшыні і іншыя памяшканні.

У 1951 годзе адбылося ўзбуйненне калгаса: да Ручаёўкі былі далучаны вёскі Мікалаеўка, Аўрамаўка, Нова-Кузнечная, Карчомка і Крывін. Новы калгас атрымаў імя Энгельса, узначаліў яго І.М. Кацуба. Шмат сіл і здароўя аддалі калгаснай працы ў тыя гады А. Гапоненка, Н. Кацуба, В. Прымак, К. Прымак, Ф. Прымак, Дар'я Цыплякова і іншыя. Калгас тады трымаўся ў асноўным на жаночых плячах.

Падчас узбуйнення раёнаў Ручаёўскі савет у 1962–1965 гады знаходзіўся ў складзе Брагінскага раёна, а калгас імя Энгельса быў перайменаваны ў калгас «Зара». У 1970 годзе на базе калгаса быў створаны саўгас «Зара», які з 1972 года ўзначаліў А.С. Баброў. На вёсцы пачалося актыўнае будаўніцтва, з'явіліся дзве новыя вуліцы, дзе ўтульныя кватэры атрымалі маладыя сем'і, былі ўзведзены будынкі сярэдняй школы, савета, адміністрацыі саўгаса, памяшканні ферм, майстэрні, склады, заасфальтаваны вуліцы.

Паводле перапісу 1999 года, у Ручаёўцы налічвалася 133 гаспадаркі, 375 жыхароў, з іх 170 мужчын і 205 жанчын, працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельчарска-акушэрскі пункт, Дом культуры, бібліятэка, аддзяленне сувязі. У 2001 годзе саўгас «Зара» быў пераўтвораны ў КСУП «Зара».



*На фотаздымку: удзельнікі Ручаёўскага раённага педагагічнага злёту 1929 г. (у другім радзе ў цэнтры сядзіць Філіп Ільіч Краўчанка, загадчык аддзела Лоеўскага райвыканкама)*

*Мікалай АНІСАВЕЦ,
Іван ГУРЫНОВІЧ*





*(Заканчэнне. Пачатак у № 9)*

# Шуміць стогадовы дуб

Культ дуба існаваў амаль ва ўсіх еўрапейскіх народаў. Яму прыносілі ў ахвяру жывёл і птушак, а часам рабоў і нават сваіх суродзічаў. Лічылася, што такім чынам можна заахвоціць, «угаварыць» дрэва дапамагаць у будзённых справах. Можна дапусціць, што пад агульным паняццем «дуб» маглі разумецца і іншыя дрэвы. Але тым не менш гэта не перашкаджае нам гаварыць аб шанаванні чалавекам-язычнікам менавіта дуба.

Старажытныя грэкі пакланяліся не толькі духу дрэва, але і абагаўлялі асобныя часткі яго: лісты, голле, драўніну. Дубовая галінка была эмблемай магутнасці і знатнасці роду. Дубовымі вянкамі (як лаўровымі) узнагароджвалі воінаў-герояў. Вярхоўны бог Зеўс маляваўся ўпрыгожаным дубовымі галінкамі. Драўніна дуба-аракула мела магічнае значэнне. Нездарма ж багіня Афіна, якая апекавала арганаўтаў, уставіла кавалак гэтага дрэва ў кіль карабля «Арго». А залатое руно, па якое накіраваліся ў паход арганаўты, вісела ў Калхідзе таксама на свяшчэнным дубе. У гонар багіні зямлі Геры падчас святкаванняў ва ўрачыстых працэсіях неслі лялькі, зробленыя з дуба. Вакханкі ўпрыгожвалі свае галовы дубовымі лістамі, дубовае лісце служыла ім нават падушкамі, калі яны кладліся спаць.

Да нашых дзён на беларускім Палессі існуе старажытнае павер'е, паводле якога, калі грыміць першы гром, трэба прытуліцца спінай да дуба і пацерціся аб яго – тады ўсе хваробы як рукой здыме. Вядома, што сувязь грому (маланкі) з дубам мае глыбокія міфалагічныя карані і адлюстроўваецца нават у этымалагічнай роднасці назваў грому (або, у дадзеным выпадку, бога-грому – славянскае «Пярун», літоўскае «Пяркунас») і дуба (лацінскае «кверкус»).

Даволі доўгаму пакланенню славян дрэвам актыўна садзейнічала і тое, што ліцвіны, напрыклад (а так даволі часта ў даўнія часы называлі беларусаў), былі далучаны да хрысціянства толькі ў канцы XIV – пачатку XV стагоддзяў. Да гэтага ж культ дрэваў працягваў адыгрываць у іх важную ролю. Некаторыя пакланяліся не толькі магутным дубам, але і высокім разгалістым дрэвам іншых парод.

Другая частка ліцвінаў, якая па-ранейшаму пакланялася дубам, як зрэнку вока аберагала свяшчэнныя гаі і дубровы, размешчаныя побач з вёскамі. Звычайна гэта былі проста паляны ці расчышчаныя ўчасткі лесу з невялікай купкай дрэў, агароджаных дубовымі платамі. У цэнтры стаяла свяшчэннае дрэва, якое вылучалася сваім узростам і таўшчынёй. На голлях развешвалі скуры жывёл, прынесеных у ахвяру, кавалкі мяса і г.д.

Існавала павер'е, паводле якога ліцвіны лічылі вялікім і непапраўным грахом нават узяць у свяшчэннай дуброве зламаную галінку. Тады, на іх думку, гэты чалавек ці хутка пампрэ, ці будзе знявечаны.

Нельга было выпускаць туды пасвіцца жывёлу ці нават заходзіць людзям без важных прычын. У свяшчэнных дубровах збіраліся мужчыны (жанчынам уваход туды быў увогуле забаронены) толькі ў вызначаныя дні, калі багі гатовы былі выслухаць іх зямныя справы. Турбаваць багоў без падставы строга забаранялася.

У даўнія часы ў некаторых мясцінах, дзе размяшчаліся свяшчэнныя дубровы, людзьмі несвядома былі створаны невялікія біясферныя запаведнікі. Нават засохлыя, абабітыя ветрам ці дажджом галінкі, паваленыя дрэвы забаранялася кратаць, бо гэта магло наклікаць бяду на паселішча, на ўвесь род. Нешта прыбіраць ці рабіць у такіх гаях можна было толькі з дазволу служкаў ці калі дрэвам была прынесена адпаведная ахвяра.

Цяпер можна адказаць на пытанне, чаму так доўга царкоўным місіянерам не ўдавалася прымусіць просты народ (беларусаў, літоўцаў і іншых) прыняць хрысціянства. Гэтыя прапаведнікі часта бязлітасна расправляліся з рэшткамі язычніцтва, караючы шматлікіх прыхільнікаў драўляных багоў. Язычнікі, у сваю чаргу, таксама праціваліся гвалту. Гэта і прывяло да таго, што прыняцце хрысціянства ў Літве, Беларусі, Жмудзі зацягнулася ў асобных мясцінах на некалькі стагоддзяў.

Але найбольш цесна культ дуба ў славянскім фальклоры быў звязаны з культам магутнага язычніцкага бога Перуна.

Шмат захавалася апісанняў Перуна. Беларускія пісьмовыя помнікі сцвярджаюць, што гэты бог быў высачэзнага росту, з доўгай барадой (барада, мусіць, сімвал хмар, якія пакрываюць неба. – **А.Н.**), з чорнымі валасамі, велічны, статны. Яго грымучы лук – каменны молат, часам вясёлка. Яго стрэлы – гэта маланкі. Імі ён разбівае варожыя войскі Чарнабога. Яны нагрувашчваюць цяжэрныя хмары, каб засланіць сонца, сарваць месяц, сумясціць у хмары напітак жыцця – ваду. Але Пярун адным ударам свайго каменнага молата разбівае хмары, і вызваленая вада льецца на зямлю. Нячысцікі бягуць на зямлю, але і тут іх наганяюць стрэлы Перуна. Чэрці ведаюць, што Пярун любіць чалавека і аберагае яго, таму яны кідаюцца ў жыллё людзей, каб выратавацца сярод іх, але ў такіх выпадках Пярун трапляе і ў жыллё чалавека. А калі здарыцца, што страла заб'е чалавека, то багі ўзнагародзяць яго за тое ў будучым жыцці.

Ідал Перуна звычайна ставілі пад дубам, прысвечаным гэтаму богу. Таму і сам дуб лічыўся свяшчэнным. Былі асобныя свяшчэнныя гаі, якіх ніхто не мог крануць і якія прызначаліся для падтрымання нязгаснага агню. Гэтыя гаі, як і асобныя дрэвы, асабліва старыя, карысталіся вялікай пашанай. Іх агароджвалі платамі і доўга пакланяліся ім і пасля ўвядзення хрысціянства.

Акрамя таго, што дзякуючы народным паданням і легендам, старажытным рукапісам і летапісным зводам, да нас дайшоў «дакладны партрэт» Перуна, маем мы аб ім уяўленне і з археалагічных знаходак. Нават на гербах некаторых гарадоў можна было ўбачыць славутага Перуна.

У славянскіх народаў вядомы назвы населеных пунктаў, урочышчаў, узгоркаў і г.д., дзе часта сустракаюцца такія спалучэнні, як «Перунова гара», «Перунова дубрава».

Агульнавядома, што ў свяшчэнных дубравах, ля свяшчэнных дубоў, там, дзе прыносілі ахвяры, знаходзілася капішча (свяцілішча), у якім дзень і ноч гарэў агонь, прычым падкідвалі ў касцёр толькі дубовыя дровы, бо дрэва іншай пароды магло апаганіць святасць усемагутнага агню. Да таго ж агонь для вогнішча здабывалі пры дапамозе трэння двух кавалкаў драўніны, абодва з якіх былі дубовыя. Калі часам агонь у свяцілішчы патухаў, то жорстка абыходзіліся з тым, хто павінен быў яго пастаянна падтрымліваць. Такога служку неадкладна, каб замаліць грахі перад Перуном, прыносілі ў ахвяру ўсемагутнаму богу. Такім чынам, жыццём аднаго адкуплялі спакой і нявіннасць іншых, што чарговы раз падкрэслівае фанатычнасць веры язычнікаў ва ўсемагутнасць багоў, увасобленых у дубовыя дрэвы.

Месца для капішча выбіралася вельмі старанна. Патрэбна было ўлічыць усе неабходныя ўмовы для стварэння «святога» месца: каб яно знаходзілася на высокім узгорку, каб яго акружала з усіх бакоў непраходная мясцовасць, каб паблізу было многа дубовых дрэў і каб ні вецер, ні снег, ні дождж не перабівалі раўнамернага гарэння агню, каб ворагам ці ліхім людзям цяжка было знайсці сцежку да язычніцкага вогнішча. Пры парушэнні хоць адной з гэтых умоў капішча магло быць апаганена, агонь патушаны, а дубы ссечаны.

Сваіх забітых і памерлых русічы спачатку спальвалі і (зноў-такі!) перадсмяротны човен і касцёр рабілі з дубовых дроў, бо лічылі, што такім чынам нябожчыкі хутчэй ачысцяцца ад усялякай брыдоты і ўступяць ў пазамагільнае жыццё. Потым памерлых пачалі хаваць у калодах, але пераважна толькі заслужаных людзей. Вядома, што ў Кіева-Пячэрскай лаўры існаваў гэты звычай, а героі Кулікоўскай бітвы Аслябя і Перасвет былі прывезены з поля бою і ў дубовых калодах пахаваны ля адной з маскоўскіх цэркваў.

***Прыведзеныя вышэй прыклады, а іх колькасць можна значна павялічыць, сведчаць пра тое, што культ пакланення старажытных русаў волату-дубу быў вельмі шырока распаўсюджаны і цесна звязаны з галоўным богам язычніцкага пантэона – Перуном. Даволі часта культ гэтага дрэва ў славянскай міфалогіі асацыяваўся з культам жывёл, птушак, у прыватнасці дзіка і пеўня. Нават да нашага часу дайшлі адгалоскі таго старажытнага свяшчэннага абраду, дайшлі відазмененымі, але тым не менш цікавымі і займальнымі, вартымі ўважлівых да сябе адносін з боку гісторыкаў і этнографаў, фалькларыстаў і літаратуразнаўцаў – усіх тых, хто любіць гісторыю свайго краю.***

*Паводле кнігі Аляксея НЕНАДАЎЦА «Святло таямнічага вогнішча»*




*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 8–9)*

У 1970 г. рэшткі лётчыкаў (мае быць – экіпаж Гастэлы) перанеслі з Мяркоўскага лесу і ўрачыста перапахавалі ў в. Бяларучы, дзе вечным сном спяць партызаны Пётр Шымчонак і Надзея Харчанка. На помніку выбілі словы: «НЕВЯДОМЫМ ВОІНАМ ЛЁТЧЫКАМ»... Але сёння ўсе факты сцвярджаюць, што менавіта тут, пад Бяларуцкай плітой, пахаваны капітан Мікалай Гастэла і Рыгор Скарабагаты. Ёсць меркаванні лічыць, што магілу Анатоля Бурдзенюка, па словах Агейчыка, неабходна шукаць у в. Мацкі, менавіта там ён выпаў з палаючага самалёта і менавіта там ён быў пахаваны бацькам Аляксандра Агейчыка на краі яра, непадалёку ад могілак. Лёс Аляксея Калініна застаецца загадкай, але можна паспрабаваць пашукаць аб ім звесткі ў нямецкіх архівах. Той лес, куды трапіў падбіты самалёт, мясцовыя жыхары і сёння называюць Гастэлаўскім, альбо месца «пад самалётам», нават дарога сярод лесу захавалася. Па гэтай дарозе вяскоўцы ездзілі на балота за мохам і хадзілі ў журавіны, дурніцы і грыбы. «Куды пойдзем па грыбы, па ягады?» – «Пад самалёт». Калі ісці менавіта па гэтай дарозе, то можна трапіць на тое месца, дзе калісьці ўпаў самалёт капітана Гастэлы.



**Р. Скарабагаты, штурман**



**А. Бурдзянюк, штурман**

**А. Калінін, паветраны стралок-радыст**

***Тым і заканчваецца апавяданне аднаго з даследчыкаў подзвіга першых дзён вайны – подзвіга двух капітанаў Гастэлы і Маслава.***

***Капітан Гастэла па-геройску загінуў, знішчаючы варожую сілу каля вёскі Мацкі, стаў Героем Савецкага Саюза ў 1941 г. Пахаваны, як высветлілася, у в. Бяларучы Лагойскага раёна, дзе неабходна на магіле і замяніць надпіс «невядомыя» на прозвішчы лётчыкаў-герояў Мікалая Гастэлы і Рыгора Скарабагатага. Месца ж гібелі самалёта таксама патрабуе ўшанавання і мемарыяльнага знаку. Гэты знак мог бы з'явіцца на перакрыжаванні дарог у в. Мярковічы Лагойскага раёна.***

***Капітан Маслаў загінуў, знішчаючы калону войск ворага каля вёскі Дзякшняны Маладзечанскага раёна. Стаў Героем Расійскай Федэрацыі ў 1996 г. Пахаваны ў брацкай магіле разам са 142 іншымі загінулымі ў пасёлку Радашковічы.***

***Памерлыя сораму не маюць... А ці маем яго мы, жывыя?..***

*Дзмітрый ДУБРОЎСКІ*



**Помнікі ў Бяларучах Лагойскага раёна**

## З народнага

***Раскazвае Аляксандр Сяргеевіч Фяткевіч, 1929 г. н., ураджэнец в. Пожанькі. Запісана ў 1987 г. у г. Сянно***
*(З захаваннем уласцівасцей мясцовай гаворкі)*

### Два камні – і сорык пудоў язёў

Еду я. А там озіра Саро рачулка прыхадзіла. І тама за дзярэўнюй йіна кынчайіцца, як сажылка. Гляджу сьцяной, пластым стайіць рыба. Зыйіжджаю г брату і кажў: «Ёсь сеткі?» Узялі сеткі, зьдзелі штаны і гыняйім боўткый. Ясь у ногі б'ёцца, а ў сеткі не лезіць. Заходзім к стыраверу і кажым, што рыба ня лезіць у сеткі. А ён кажыць: «Я йім-та паваражу, то ўсе будуць у сеткі». Ложым агонь і каменьня кладзём. Ён кінуў два камні (гарачых) і язі ў сетку паўлезлі. І ня мені сырыка пудоў нылавіў язей, а так боўткый ні загоніш.

### Як прыжылісі Стыхванувы восьці ў шчукі

Вясной пашоў дзет Стыхван з восьцімі на шчуку. Ходзіць быльшая шчука. Ён ударыў. А йіна вырвыла восьці і ушла. Летам рыбаловы вудзілі, Стыхванувы осьці то там, то там у Тухінскім возіры (яны выторкваліся з вады). А ўвосінь убачылі, што ўмёрзлі етыя восьці. Тута сыбралісі, вырубілі лёт і выцігнулі ету шчуку. Восьці угайілісі, прыжылісі тама тожа. Кыла двух пудоў была. Пу луське нылічылі 370 (трыста семдзісят) лет. Шчука, як гот прыжыла, так пу луске (чушуе, шулухе) палосычкі такея. Гэта было ў пяцідзесятых гыдах, калі шчука ў Стыхвана восьці вырвыла.

### Харошы злодзій

Быў у дзярэўні харошы злодзій. Чылавек тамыцька купіў малодыга кыня. Злодзій задумуў украсьць. Чылавек не кідаў кыня, а нучуваць браў у хату. Злодзій падгледзіў, як чылавека ні було дома, залёс пат печ і сядзіць. Хазяйін прывёў кыня, засунуў засыўку і лёх спаць. Вымырыўся за дзень і ахроп. Злодзій атсунуў засыўку і вывіў кыня.

### Дзет забіў чорта

Пастроіў я пуню і ні пысьвяціў. Пупа ні прігласіў пысьвяціць. Пашоў і сплю на сені. Чую, па бэлькі кыр-кыр. А я тады крэпык быў. Як хваціў яго за хвост і ап шулу дубовую. І забіў. «Ці зьняў кожу?» – «А каму нада кожа ш чырта?»

***Сабраў Іван ЯШКІН***

# Крыжаванка

### Уздоўж

**7**. Вёска на Піншчыне, радзіма Франца Савіча. **9**. Паэтрамантык, настаўнік (у Хойніцкай дзесяцігодцы вучыў І. Мележа), загінуў на фронце ў 1945 г. **11**. Найвядомейшы гісторык манетнай справы, аўтар даследавання «Нумізматыка Беларусі». **12**. Вёска ў Шчучынскім раёне, радзіма знакамітага жывапісца Казіміра Альхімовіча. **13**. Рэзкі, халодны вецер. **14**. Акцёр Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра (галоўныя ролі ў «Захадзе», «Пігмаліёне» і інш.) **15**. Ніжняя частка нагі. **18**. Паводле кнігі «Россия» пад рэд. Сямёнава (СПб, 1905), гэтыя жыхары Палесся адрозніваліся ад беларусаў і належалі да «маларасійскага племені». Хто яны? **19**. Шлёма ў паэме Я. Коласа «Сымон-музыка». **20**. Нацыянальны герой Кубы, змагаўся з іспанскімі каланізатарамі ў XIX ст. **21**. Агульны стол для яды ў манастыры. **24**. Старажытная назва шашачнай гульні. **27**. Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру, звычайна вершаваных. **30**. Кіслая мучная страва накшталт саладухі. **32**. Начная балотная птушка, што любіць «параўсці». **33**. Знакамітая расійская трагедыйная актрыса (1853–1928). **34**. Старшыня Беларускага саюза мастакоў (да 2001 г.). **35**. Жыхар Хатыні, які выжыў у 1943 г., а пасля вайны вадзіў экскурсіі па мемарыяле. **36**. Беларускі мысліцель-пратэстант XVI–XVII ст., педагог і фальклярыст.





### Упоперак

**1**. Географ і антраполаг родам з-пад Смалявічаў (1858–1934). Складальнік першага слоўніка якуцкай мовы. **2**. Адзін з правадыроў паўстання 1830–1831 гг., вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. **3**. Вёска з «шыпячасвісцячым» найменнем пад Слуцкам. **4**. Каларадскі жук з гаспадарчага пункту гледжання. **5**. Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, арыштоўваўся польскімі і (пасля абмену ў 1932 г.) савецкімі ўладамі. Загінуў у лагеры ў 1943 г. **6**. Пісьменнік, узначальваў «Мартыралог Беларусі». **8**. Сплаў жалеза з магніем. **10**. Майстар, які вырабляе хамуты, сёдлы, аброці. **15**. Мелкаводны марскі заліў, звычайна ў вусцях рэк. **16**. Лідэр французскіх камуністаў у 1930–1960-я гг., адзін з арганізатараў антынацысцкага Супраціўлення. **17**. Славуты іўдзейскі настаўнік II ст., падтрымаў паўстанне Бар-Кохбы супраць рымлянаў. **22**. Жанр журналістыкі. **23**. Беларускі шашыст, экс-чэмпіён СССР у гульні па перапісцы, віцэ-чэмпіён свету сярод завочнікаў. **25**. Завод па вытворчасці простакутных брускоў з гліны. **26**. Выбітны тэатральны дзеяч, заснавальнік гуртка ў Палівачах (1907), з якога пазней развілася «Першая беларуская трупа». **28**. Дзяржава, з якой выгналі пратаганістаў верша Я. Купалы «Жыды!..» **29**. Сталіца «краіны кенгуру». **31**. Рака ў Закаўказзі, па якой праходзіць мяжа паміж Азербайджанам і Іранам. **32**. Князь, легендарны заснавальнік горада на Бярэзіне (1102 г.).

***Склаў Вольф РУБІНЧЫК, г. Мінск***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯЛІКІ КНЯЗЬ** – найвышэйшы княжацкі тытул у ВКЛ. Афіцыйны тытул яго меў найменні: літоўскі, рускі, жамойцкі і інш.; называўся таксама гаспадаром, які ўзначальвае гаспадарства – г.зн. дзяржаву. Меў значныя паўнамоцтвы, але ўлада вялікага князя абмяжоўвалася Радай ВКЛ, роля якой усё большала пасля смерці Вітаўта ў 1430 г. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. быў адначасова і каралём польскім, што пэўным чынам было на карысць Польшчы. Пасля ліквідацыі ВКЛ у канцы XVIII ст. тытулам вялікага князя літоўскага да 1917 г. карысталіся расійскія імператары.

**ВЯНКОВАЯ КАНСТРУКЦЫЯ** ў архітэктуры – сістэма драўляных вянкоў (гарызантальных радоў бярвёнаў, плашак, дыляў і інш.), змацаваных у куце ўрубкамі, укладзеных адзін на адзін, што ўтвараюць зруб. Сістэма ўжываецца ў лясных рэгіёнах Еўропы з жалезнага веку. На Беларусі вядома з II–III стст. у плямён культур штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай. Была пашыраная ва ўсіх сучасных мясцінах, асабліва ў IX–XIII стст., і з таго часу стала асноўнай канструкцыяй драўляных будынкаў. На аснове сістэмы будавалі жыллё, гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы, абарончыя збудаванні (гародні, тарасы, вежы), грамадскія і культавыя будынкі. Вядомыя зрубы прамавугольнай, квадратнай (клеці), 8-граннай (васьмярык), 6-граннай формы, пастаяннага або пераменнага па вышыні сячэння, ярусныя (чацвярык на чацверыку, васьмярык на васьмерыку і інш.). Спалучэннем некалькіх зрубаў утваралася падоўжана-восевая, глыбінна-прасторавая, крыжова-цэнтрычная, жывапісна-асіметрычная і іншыя кампазіцыі. Вянковыя канструкцыі мелі не толькі зрубы, але часам і іх завяршэнні (закот, верх, шацёр). У сучасным будаўніцтве яны выкарыстоўваюцца пераважна ў традыцыйным народным жыллі і гаспадарчых пабудовах.



Віды вянкоў. *Уверсе*: віты вянок з Кобрынскага раёна; вянок-абручык з Магілёўскага павета. *Унізе:* вянок-шапачка з Драгічынскага раёна; вянок на каркасе з Жыткавіцкага раёна (усе – канца XIX – пачатку XX ст.)

**ВЯНОК** – а) ухарошванне з кветак, зяляніны, стужак, паперы, пер'я ў форме кружка, які надзявалі на галаву. Паводле спосабаў вырабу і аздаблення вянкі адрозніваюцца 4 відаў. *Віты вянок* з палявых кветак (дзьмухаўцы, васількі, рамонкі) ці руты насілі дзяўчаты летнім часам. Без яго не маглі абыйсціся, скажам, на вяселлі, на Купалле, а таксама пры дажынках, калі плялі вянкі з каласоў збажыны і кветак. *Вянок-абручык* рабілі з лазы, галінкі дрэва і абгортвалі рознакаляровай тканінай ці паперай. Аздаблялі зялянінай, штучнымі кветкамі, васковымі ягадкамі; ззаду прывязвалі рознакаляровыя стужкі, тасёмкі. Такі від упрыгажэння найбольш вядомы ў Брэсцкім Палессі. *Вянок на каркасе* рабілі з лубу, бяросты, кардону нападобе сіта без дна (вышыня 10–16 см) і абцягвалі тканінай. Звонку абшывалі акрайкамі каляровых матэрыялаў, папяровымі кветкамі, фарбаваным пер'ем, шклянымі пацеркамі; ззаду да верхняга краю мацавалі пук стракатых стужак і пярэстыя палосы тканіны (даўжыня каля 90 см). Выкарыстоўвалі як вясельны ўбор у Заходнім Палессі, Прыдняпроўі. *Вянок-шапачку* рабілі з гнуткіх дубчыкаў, якія пераплятaлі, каб закрыць верх. Вонкавую паверхню высцілалі штучнымі кветкамі або фарбаваным у зялёны колер пер'ем. Бытаваў у Пінскім Палессі. Асаблівай разнастайнасцю вызначаліся вянкі на Палессі і ў Прыдняпроўі канца XIX – пачатку XX стст. Яны надавалі асобе святочны, урачысты выгляд і стасаваліся з агульным уражаннем ад касцюма. У вясельным абрадзе вянок быў сімвалам дзявочай цнатлівасці; як убор нявесты сустракаецца і на сучасных вяселлях; б) у некаторых мясцінах Беларусі вянок – сінонім суборнай суботы (зборная субота, дзявочнік, дзявочы вечар); в) у драўляным дойлідстве – рад бярвёнаў зруба пры будаўніцтве хаты, гаспадарчых пабудоў (гл. «Вянковая канструкцыя»).

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 7

#### Уздоўж

**7**. Будзіловіч. **8**. Караткевіч. **10**. Шпак. **11**. Балбасава. **12**. Альт. **15**. Копысь. **18**. Акулаў. **19**. Альгерд. **20**. Вочап. **21**. Адроў. **24**. Чыгунка. **26**. Трушко. **27**. Скрыня. **30**. Удод. **32**. Лермантаў. **33**. Пётр. **34**. «Аршаншчына». **35**. Жалязоўскі.

#### Упоперак

**1**. Падняпроўе. **2**. Кавалькада. **3**. Пінск. **4**. Светач. **5**. Юрцава. **6**. Школа. **9**. Вараг. **13**. Астрожскі. **14**. Якубоўскі. **16**. Хлопчык. **17**. Юрчанка. **22**. Гарадзішча. **23**. Ігнатоўскі. **25**. Устаў. **28**. Першыя. **29**. Кабыла. **31**. Дзень. **33**. Парог.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 07.03.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 199
Тыраж 1450 асобнікаў.